ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 15 (162) • 12 — 18 красавіка 1996 г. Кошт свабодны

# ХРЫСТОС УВАСКРОС! САПРАЎДЫ УВАСКРОС!

## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Хрыстос Васкрос!

І з Сьвятам, што вышэй за ўсё, бо Ягонай прычынай вуглавы камень нашае Веры - Хрыстовае Устаньне з Умерлых, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства і Любыя Вернікі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, ды ўсе, дзе б Вы не былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтай роднай Сьвятой Царквы імкнецеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Жадаю ўсім Вам з удзячнасьцю ў сэрцах нашаму Збаўцу Ісусу Хрысту за выкупленьне нашых душаў з пякельных чэлюсьцяў і з пабожнасьцю ў думках годна ўважаць гэтае Сьвята ды зачэрпаць з Яго радасьці, і духовае сілы на жыцьцёвыя дазнаньні ды на ахвярныя ўчынкі, што Вас у абліччы гэтых дазнаньняў чакаюць.

Неўзабаве, бо пасьля Сьвята Хрыстовай Перамогі над сьмерцю настае дзень Радаўніцы, калі мы павінны дзяліцца вялікоднай радасьцю з любымі, што ад нас адыйшлі перад Божае аблічча, але найчасьцей ня можам стрымаць сьлёз ды ўпыніць суму.

Але, калі цяжка загаіць боль у сэрцах ад наканаванага ў нашым стварэньні разьвітаньня з мілымі нам роднымі і прыяцелямі, як жа мацней яшчэ даймаюць страты, што, на нашую думку, упадаюць на нас з непамернай да нашых вінаў цяжкасьцю, як гэта сталася 10 год назад ад Чарнобыльскай бяды.

Гэткае ж пачуцьцё непамернасьці нашае платы за вынікі кваліць і сэрцы амаль у кожнай беларускай сям'і, што не даймелася пасьля вайны ці аднаго з ёй дарагіх, ды ня толькі з варожае рукі, але і з непашанаю да людзкога жыцьця тых, што не шкадуючы крыві сыноў і дачок нашага Народу Беларусь ізноў адваявалі.

А ці ж мала ў якой сям'і ў нашым Краі не сьціхае крыўда і боль за сумленных і нічым нявінных працаўнікоў, што найчасьцей у цьвеце жыцьця зьгінулі ў нязьлічаных і затоеных дасюль Курапатах, без пары дайшлі ў засланьні, або дарэмна змарнавалі век у бясправі.

Гэтае мора сьлёзаў і крыві ды людзкога гора ўзяло адно няцэлае стагоддзе, а калі зірнуць у мінулае, дык бездань няшчасьця, што наш Народ і Край дазналі, нельга ахапіць розумам, ані апісаць словамі.

Ды наш смутак, што яму няма роўні ў сьвеце, паглыбляе яшчэ і абяртае ў роспач сучаснае становішча ў нашым Краі, зьнявага ў Ім нашай нацыянальнай і людзкой годнасьці, памкненьні зьнішчыць дадзеныя Богам нашаму Народу асаблівасьці і каштоўнасьці, жахлівыя, насуперак нашай працы і руплівасьці, жыцьцёвыя ўмовы ды абставіны.

У прыгнечаных і запалоханых гэтымі перажываньнямі ды цяжкасьцямі ці мала ў каго з нас слабне вера ў Божую моц і справядлівасьць, бярэ ў думках верх пачуцьцё дарэмнасьці ўсіх собскіх памкненьняў да лепшага, адольвае спакуса здацца на ласку тых, што няўдалым раней спосабам ізноў абяцаюць нам даць шчасьце на гэтым сьвеце.

За гэтае, уперад неасяжнае шчасьце, патрабуюць ад нас адно адрачыся ад паслухмянасьці Божым наказам, ад любасьці і пашаны да дадзенае з Найвышша роднае мовы й Краю, ад права на здабываньне дабра ў жыцьці сваімі собскімі сіламі.

І колькі ж з нас, заступіўшы веру ў нашага Стварца спадзевам на князёў гэтага сьвету, гатова нішчыць створаныя Богам і дадзеныя нам з Ягонае Волі неацэненыя дары мовы і самабытнасьці, не застаецца зьмяніць сумленнасьць на згоду з няпраўдай, ды ведаючы, што на зямлі нішто задарма не даецца, становіцца ў чаргу, каб з свайго дабра дастаць ласку.

Любыя Мае, не здавайцеся спакусам!

Згадайце Сьвятым Вялікадням, што Божы



Сын дзеля нашага збаўленьня сьцярпеў мукі й сьмерць, ды ачысьціце Вашыя думкі ад слабасьці, ды абыякавасьці да маны, ад ахвоты патураць несправядлівасьці.

Успомніце, што Устаньнем з Умерлых Хрыстос перамог сьмерць і адчыніў нам, раней пачатным грэхам замкнёныя, дзьверы ў рай, ды асьцерагайцеся, каб праз Вашыя собскія віны гэтыя дзьверы перад Вамі ізноў не зачыніліся.

Дзеля гэтага ўмацуйцеся выяўленай да нас у Хрыстовым Устаньні з Умерлых любасьцю ды бяз боязі страхоцьцяў, што Вас абступаюць, добрымі ўчынкамі будуйце жыцьцё на нашай Бацькаўшчыне, годнае стаць прысенкам Гаспадарства на небе.

А ў гэтай будове паводле Божага Плану будзе ісьці наперадзе Вас узноўленая Вашымі намаганьнямі ў Краі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква і задзіненыя ў Ёй Праваслаўнай Верай, ды добрымі дзеямі Вы ўверыцеся, што Хрыстос будзе заўсёды сярод Вас, бо Ён сапраўды васкрос!

## КОШТ РЫЗЫКІ

**«...Усе мае дзеяньні былі накіраваныя на тое, каб прынесьці карысьць банку...» - заявіў у сваім апошнім слове на судзе былы ўпраўляючы гарадзенскім аддзяленьнем «Віткамбанку» Віктар Асіпенка.**

У віну яму ставілася выдача ў студзенілютым 1995 году грашовых крэдытаў фірмам «Экспрэс-сервіс», «Бэта» і «Пакт» у памерах, якія упраўляючы гарадзенскім аддзяленьнем ня мог выдаваць бяз згоды кіраўніцтва банку. Фірмы аказаліся неплацёжаздольнымі і грошы не вярнулі. Нанесеныя банку страты вымяраліся мільярдамі рублёў.

Даказаўшы, што сп.Асіпенка сапраўды перавысіў свае паўнамоцтвы, суд, аднак, ня змог даказаць, што падсудны, выдаючы крэдыты, кіраваўся асабістымі інтарэсамі. Прысудам суду Ленінскага раёну Віктар Асіпенка прыгавораны да двух гадоў выпраўленчых работ па месцу працы з утрыманьнем 20% заробку на карысьць дзяржавы. Акрамя таго, ён абавязаны кампенсаваць нанесеныя банку страты і на працягу пяці гадоў не займаць матэрыяльна адказныя пасады.

## ЗАВОДЫ РАЗВОДЗЯЦЦА З САДКАМІ

**З 1 траўня на баланс гарадзкога аддзела адукацыі пераходзяць дзіцячыя садкі N 9 завода «Гандльмаш» і N 60 арэнднай будаўніча-мантажнай фірмы «Гроднапрамбуд».**

Абодва прадпрыемствы сёньня ня ў стане ўтрымоўваць свае дашкольныя ўстановы з-за цяжкага фінансавага становішча. Гарвыканкам абавязаў, аднак, кіраўнікоў «Гандльмаша» і «Гроднапрамбуда» захаваць сацыяльныя ільготы работнікам садкоў, прадугледжаныя калектыўнымі дамовамі.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## НЯ ЧЫСЬЦІЛІ, А ПРЫЗНАЛІ ЧЫСТЫМІ

**У той час, як увесь цывілізаваны сьвет ладзіць навуковыя канферэнцыі да дзесяцігоддзя Чарнобыльскай аварыі ды зьбірае сродкі, каб неяк дапамагчы яе ахвярам, беларусы (а яны пацярпелі найбольш) зноў вызначыліся арыгінальным падыходам да гэтай праблемы.**

На падставе пастановы Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 лютага 1996 году, фінансавы аддзел Івейскага райвыканкаму унёс зьмены ў сьпісы населеных пунктаў Івейшчыны па радыяцыйнаму забруджваньню. Так, прызнаны чыстымі: вёска Дуды Морынскага сельсавету, вёскі Навасёлкі і В.Барова Лялюкінскага сельсавету, Хімеры, Сухі Барок, Бакунова-1, Замошша-2, Мягловічы Бакштаўскага сельсавету, Зубковічы і Радзевічы Івейскага, Сяльшаняты і Іванкі Эйгердаўскага ды вёска Лаздуны Лаздунскага сельсавету. З 1 красавіка выплаты за пражываньне і за працу ў гэтых населеных пунктах прыпыняюцца.

**Станіслаў СУДНІК.**

## СТАРШЫ ЛЕЙТЭНАНТ САКІН ПАТРОНАЎ НЕ ШКАДУЕ І СТРАЛЯЕ БЕЗ ПАПЯРЭДЖВАНЬНЯ...

**Саюзу яшчэ няма, а ў тым, што ёсьць, пакуль не хапае адной літары. Аднак гэта не перашкаджае нашым «інтэгратарам», пад салодкія казкі пра аб'яднаную Эўропу, якая сьцірае межы, па-новай будаваць жалезную заслону на заходніх рубяжах. Прычым метадамі, якія ў «старыя добрыя часы» не выкарыстоўваліся нават на мяжы з патэнцыяльнымі агрэсарамі.**

Спачатку была ўтворана памежная зона. Потым туды паслалі памежны нарад на чале са старшым лейтэнантам Сакіным, узброеным аўтаматам з баявымі патронамі. Менавіта там, 8 красавіка ў некалькіх кіламетрах ад Горадні, на павароце з сапоцкінскай дарогі ў бок вёсак Канюхі і Лабна і перакрыжаваліся шляхі ўзброенага памежніка Сакіна і цывільнага чалавека Г.В. (па просьбе пацярпелага падаем толькі яго ініцыялы - М.Т.).

Вінаватым у гэтым спатканьні, безумоўна, ёсьць Г.В. Прычым, вінаватым адразу па некалькіх пунктах. Найперш у тым, што ў той час, калі тэрыторыя вёскі Багатыры не была памежнай зонай, атрымаў там дачны ўчастак. Па-другое, з-за таго, што тэрмінова зьбіраючыся з аказіяй наведаць свае «соткі», Г.В. забыў асноўны прынцып любога нармальнага савецкага чалавека: «без бумажкі ты - букашка»...

Карацей кажучы, памежны пропуск ён з сабою ня ўзяў. Што і высьветлілася пасьля таго, як пільны памежнік Сакін спыніў аўтамабіль.

- Вашы дакуманты, - запатрабаваў Сакін.

Міхаіл Мікалаевіч, які быў за кіроўцу, паказаў свой пашпарт. У сувязі з тым, што Г.В. пры сабе пашпарту ня меў, ён адказаў, што ў яго дакумантаў няма. На што атрымаў загад выйсьці з машыны.

- Я выйшаў з аўтамабіля, - расказвае Г.В., - і прапанаваў старшаму лейтэнанту сваё вадзіцельскае пасьведчаньне. Але, стукнуўшы руляй аўтамата па працягнутай руцэ, памежнік сказаў, што гэты дакумант яму не патрэбны. Паціснуўшы плячыма я сеў у машыну і папрасіў Міхаіла Мікалаевіча павярнуць і ехаць дахаты...

Але, паслаўшы патрон у патроньнік, старшы лейтэнант Сакін прасунуў рулю аўтамата ў прыадчыненае акно машыны і, накіраваўшы яе ў грудзі Міхаілу Мікалаевічу, недвухсэнсоўна загадаў:

- Ня рухацца. Адвязем вас на заставу, там будзем разьбірацца...

Ад клацаньня затвору ў Г.В. прапала жаданьне ня толькі на дачу паглядзець, але і на заставу ехаць. Падзякаваўшы за прапанову (і гэта яшчэ адна яго віна, бо любы нармальны савецкі чалавек яшчэ са школы мае ўстаноўку не баяцца чалавека з ружжом), Г.В. сказаў, што ў яго ёсьць іншыя намеры распарадзіцца сваім вольным часам і, разьвярнуўшыся, пашыбаваў у Горадню.

- Зрабіўшы 6 крокаў, я атрымаў моцны ўдар ботам у бядро (акт судмедэкспертызы маецца). Азірнуўшыся, я пабачыў перакошаны твар, злобныя шалёныя вочы... Памежнік нацэльвае аўтамат у мяне, потым трохі ў бок і страляе. Я бачу, як у пару метрах ад ног зямля кускамі ляціць уверх... Наступная чарга расколола асфальт прыблізна ў пяці сантыметрах ад ног...

Усё гэта адбывалася на вачах двух маладых людзей, якіх высадзілі з аўтобуса, што ехаў у Горадню. У іх таксама не было дакумантаў, але была добрая нагода зьезьдзіць у родную вёску, каб паведаміць, што яны вырашылі пажаніцца. Туды праскочылі, а вяртаючыся ў Горадню напаткалі Сакіна. Трэба было бачыць, як ён «дапамагаў» дзяўчынцы Алёне забрацца ў кузаў ГАЗ-66.

На заставе Г.В. і яго сябра пратрымалі пяць гадзін. Дзеля разьбіральніцтва прыязджаў туды маёр Варашылаў. Потым прыязджаў палкоўнік. Палкоўнік, па словах Г.В., як сапраўдны афіцэр, пасьля нарады з маёрам у калідоры, папрасіў прабачэньня ў затрыманых, а таксама падзякаваў Бога, што ўсё абыйшлося без ахвяраў...

Калі гэты артыкул рыхтаваўся да друку, стала вядома, што матэрыялы, зьвязаныя з гэтым інцыдэнтам, накіраваны ў вайсковую пракуратуру. На нашу тэлефонную просьбу пракаментаваць здарэньне, маёр Варашылаў сказаў, што каментаваць трэба пасьля таго, як разьбярэцца пракуратура. Што тычыцца ацэнкі дзеяньняў старшага лейтэнанта Сакіна, дык, на думку Вадзіма Аляксандравіча, памежнік выконваў свой службовы абавязак і пастанову аблвыканкаму N 100...

**М.ТУРАВЕЦ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПАДМАНАМ УВЕСЬ СЬВЕТ АБЫЙДЗЕШ, АЛЕ НАЗАД НЯ ВЕРНЕШСЯ

**Шкада, што панядзелак, па расейскаму звычаю, лічыцца цяжкім днём. Падпісалі б Ельцын з Лукашэнкам сваю дамову 1 красавіка, быў бы ў нас сусьветны «дзень сьмеху» (яшчэ яго называюць «дзень дурня») сьвяточным. Праз нейкі час было б у беларусаў сваё тлумачэньне, чаму людзі ў гэты дзень адзін аднаго падманваюць. Так што спазьніліся прэзідэнты. Але ўсё ж падманулі - праўда, зусім ня сьмешна.**

Мэты гэтага ашуканства ў кожнага з падпісантаў былі свае. Ельцын, ведаючы настальгію расейцаў па імперыі, хоча падняць свой рэйтынг перад выбарамі. Ён не зьбіраецца вырашаць лукашэнкаўскія праблемы і ствараць з яго сабе канкурэнта, таму і паказаў Рыгоравічу, хто галоўны і выставіў перад усім сьветам як палітыка, які сам ня ведае, што робіць. А.Лукашэнка пару тыдняў зьбіраўся ўтвараць адзіную дзяржаву, а падпісаў чарговую паперку аб цясьнейшай інтэграцыі з «братняй Расеяй». Усе ўбачылі - каму гэта выгадна. Калі ў Маскве з вялікай помпай адзначалі ўтварэньне «Супольнасьці», Менск нагадваў акупаваны горад. Прэзідэнт засьведчыў, як ён баіцца і ненавідзіць беларускі народ, які выступіў супраць нацыянальнай ганьбы.

Лукашэнку больш даспадобы «просты народ», які верыць у любыя, нават самыя бязглуздыя абяцанкі. Яго мэта - падтрымліваць гэтую «прастату» як надалей. Афіцыйныя СМІ запэўніваюць, што мы атрымаем вялікія выгоды ад аб'яднаньня. Маўляў, жыхары Беларусі зараз змогуць зноў езьдзіць у госьці да сваіх сваякоў, моладзь без перашкод вучыцца ў Маскве, беспрацоўных чакае добра аплочваемая праца на Усходзе, расейскія пастаўшчыкі заваляць нашыя збанкрутаваныя прадпрыемствы сыравінай і камплектуючымі, выкупяць усю выробленую прадукцыю, нашы хлопцы не паедуць ваяваць далёка ад дому, а будуць берагчы спакойны сон масквічоў на сваёй тэрыторыі, усе мы зможам выкупляць у асабістую уласнасьць маёмасьць у Расеі...

Колькі можна лічыць нас дурнямі? Гэтае чарговае ашуканства можа мець наступствы адваротныя мэтам сёньняшняга кіраўніцтва ў Беларусі.

Ужо надакучыла балбатня аб кроўным брацтве беларусаў і расейцаў. Канешне, ёсьць нейкі працэнт людзей, у якіх у РФ жывуць родзічы, але ж дагэтуль ніхто не перашкаджаў падтрымліваць сувязі. Мяжы не было, візы адкрываць ня трэба, нават пашпарт замежны не патрэбен. Бяры білет і едзь, хоць на Камчатку. Дарога? На наступны дзень, пасьля падпісаньня расейска-лукашэнкаўскай дамовы, Дзярждума разглядала пытаньне аб тым, што чыгуначныя перавозкі ў Расеі сталі даражэйшыя за аўтамабільныя. Транспартныя сістэмы таксама плануецца аб'ядначь. Як бы нам не прыйшлося з Горадні ў Менск езьдзіць па расейскіх коштах. У Заходняй Беларусі амаль у кожнага ёсьць родзічы ў Польшчы або Летуве, гэтыя сувязі ўтварaліся ня некалькі дзесяткаў гадоў, а амаль тысячу. І так было цяжка паехаць да сваякоў - замежныя пашпарты, чэргі на мытнях. Хто адкажа, як будзе, калі ўтварыўшы з імперскім суседам агульную мяжу, Беларусь канчаткова самаізалявалася ад усяго сьвету?

Тым, хто лічыць, што іх дзеці атрымаюць адукацыю ў Маскве, трэба нагадаць, што і пры Савецкім Саюзе туды траплялі толькі адзінкі. А зараз мала таго, што нашай моладзі закрыецца магчымасьць атрымаць адукацыю сусьветнага ўзроўню за мяжой, дык да нас яшчэ прыедуць «вучыцца» джыгіты, з напоўненымі грашыма кішэнямі. Няхай тады беларускія хлопцы і дзяўчаты паспрабуюць паступіць у свой жа БДУ.

Беспрацоўных таксама ніхто на Ўсходзе не чакае, сваіх ужо хапае, але зноў могуць панаехаць усялякага роду «начальнічкі», якія пачнуць за нашыя ж грошы вучыць нас жыць і працаваць. Іх бяздарныя папярэднікі ўжо «запусьцілі» беларускія прадпрыемствы, чакаючы заказаў ад расейскага ВПК. У Расеі ўжо няма грошай на ваенныя заказы. Свае прадпрыемствы канкуруюць паміж сабой і ніякіх ільготаў для беларусаў за вернасьць ня будзе. Ніхто не забараняў праводзіць рыначныя рэформы і прадаваць сваю прадукцыю як на Усход так і на Захад. Яна павінна была быць канкурэнтаздольнай.

Другая справа, што падаткі душаць вытворчасьць, але для іх зьмяншэньня ня трэба аддавацца Маскве, гэта вырашаецца ў Менску. Нават калі і зьявяцца заказы на ракеты і танкі, радасьці ад гэтага мала. Мы ж есьці ня будзем, і на сябе не апранем. А калі расейцам захочацца паваяваць, першыя бомбы паляцяць на нашыя гарады. І першымі будуць гінуць нашыя хлопцы.

Ні для каго не сакрэт, што расейскія рэформы больш нагадваюць крымінальную рэвалюцыю. І маёмасьць там ужо амаль падзелена паміж бандытамі. Няхай хто-небудзь з багацейшых беларусаў паспрабуе туды сунуцца, адразу атрымае кулю ў лоб. Затое ў нас ёсьць што падзяліць. Бо, як вядома, «дзякуючы» А.Лукашэнку, прыватызацыя нават і не пачалася. 92 працэнты маёмасьці і на сёньняшні дзень зьяўляюцца дзяржаўнымі.' Гэта значыць нічыйнымі, калі паглядзець на гэта вачыма банку «Імперыял».

Ужо зараз крымінальныя паведамленьні поўныя зьвестак аб злачынствах, учыненых грамадзянамі Расеі на Беларусі. Што можа адбыцца, калі яны пачнуць спрачацца за нашу маёмасьць, уявіць страшна. Міліцыя ня ў стане змагацца з расейскай мафіяй, гэта не дзяўчат зьбіваць гумовымі палкамі. Бандыты, якіх зараз бачым па тэлевізары, могуць хутка пагрукаць нам у дзьверы.

Ня ведае Аляксандр Рыгоравіч беларускі фальклор. А шкада. Ёсьць такая прымаўка: падманам увесь сьвет абыйдзеш, але назад ня вернешся. Лукашэнкаўскі «просты народ» неўзабаве можа стаць беларускім. Тады прыйдзецца адказваць за свае ўчынкі.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

## ЁСЬЦЬ ЯШЧЭ СУД У МЕНСКУ

**Супрацьстаяньне Прэзідэнт-Канстытуцыйны Суд працягваецца. Нагадаем, што Канстытуцыйны Суд у сваім пасланьні па выніках году ў адрас Вярхоўнага Савету прызнаў стан канстытуцыйнай законнасьці незадавальняючым, прызваў усе галіны ўлады пераглядзець падыходы да законнасьці, а таксама ўвесьці пасаду Ўпаўнаважанага па правах чалавека.**

Прэзідэнт загадаў не выконваць рашэньні КС. "Вертыкальшчыкі" і не выконваюць. Аднак супрацоўніцтва КС з Вярхоўным Саветам і магчымыя яго вынікі непакояць прэзідэнта. Таму і выдаў у адказ нешта цьмянае і юрыдычна неакрэсьленае пад назвай «Аб пасланьні Канстытуцыйнага Суду Рэспублікі Беларусь».

У ім А.Лукашэнка працягвае разьвіваць ідэю добрых і кепскіх законаў. Сярод юрыстаў усяго сьвету ня знойдзеш ні аднаго, здольнага паверыць псеўданавуковай лексіцы, пры дапамозе якой улада апраўдвае парушэньні «дрэнных» законаў. Кожны знае яшчэ з першага курсу юрфаку - пакуль закон дзейнічае, яго трэба выконваць; зьмяненьні закону магчымыя толькі ў адпаведным парадку. Невыкананьне законаў ёсьць альбо злоўжываньне ўладаю, альбо бясьсільле ўлады.

Яшчэ ў «пасланьні» Лукашэнка нагадвае аб сваім праве безумоўнага першынства, якое нібыта вынікае з факту ягонага быццам бы ўсенароднага абраньня. Пры гэтым называе сябе ў множным ліку: «Мы». Нічога, акрамя непаразуменьня, гэта не выклікае: калі ў нас такі разумны кіраўнік, то чаму ж такія жабракі?

І, нарэшце, А.Лукашэнка заяўляе, што ўсе правы і свабоды ў нас забясьпечаны. Пасьля зьбіцьця дэпутатаў Вярхоўнага Савету ў мінулым годзе і мірных дэманстрантаў у гэтым, такія заявы ўспрымаюцца, як бы мовіць лагодней, ня цалкам адпавядаючымі рэчаіснасьці.

...Некалі служкі прускага караля Фрыдрыха Вялікага па сваёй ці каралеўскай патрэбе патапталі сялянскія палеткі. Пакрыўджаныя сяляне паскардзіліся каралю, аднак паразуменьня не знайшлі. Яны не пайшлі, зьвесіўшы да грудзей панурыя сівыя галовы. Яны папярэдзілі магутнага эўрапейскага валадара: «Нічога, ёсьць яшчэ суд у Берліне!»

**Сяргей КАНАПЕЛЬКА.**




## ЗАДАЧА: КАБ НЕ ЖЫЛА БЕЛАРУСЬ

Выступаючы днямі ў Лідзе, адзін з кіраўнікоў ПКБ - Віктар Чыкін - так акрэсьліў бліжэйшыя задачы сваёй партыі: дабіцца ў выніку давыбараў 51 працэнта дэпутацкіх мандатаў у Вярхоўным Савеце, паставіць свайго галоўнага рэдактара на «Народную газету», прыбраць з «Народнай газеты» дэвіз «Жыве Беларусь».

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПАДЗЕІ

Для абароны рэжыму Лукашэнкі ад студэнтаў у Менск была сьцягнута міліцыя з усёй Беларусі. Сваіх «патрыётаў», гатовых аддаць жыцьцё за прэзідэнта, накіроўвалі Горадня, Ліда, Слонім і іншыя гарады Гарадзеншчыны. Ваўкавыскі атрад, напрыклад, налічваў 25 міліцыянтаў. У адрозьненьне ад «мітынгоўцаў», якіх 31 сакавіка вазілі ў Менск на «Ікарусах», вартавыя рэжыму задаволіліся звычайным ПАЗікам.

## НА СЬВЯТА ГРОШЫ ЁСЬЦЬ. А НА ЗАРПЛАТУ?

На арганізацыю «Сьвята працы» 1 траўня ў Горадні плануецца выдаткаваць з гарадзкога бюджэту больш 25 мільёнаў рублёў. З іх на правядзеньне культурна-спартыўнай праграмы Кастрычніцкі райвыканкам атрымае дзесяць мільёнаў, Ленінскі - каля васьмі яшчэ сем мільёнаў пойдуць на правядзеньне сьвяточнай праграмы ў гарадзкім парку, урачыстае адкрыцьцё сезону ў якім таксама прымеркавана да 1 траўня.

## НАСТАЛЬГІЯ ПА САЦЫЯЛІСТЫЧНАМУ СПАБОРНІЦТВУ

Да 15 красавіка пры кожнай жыльлёва-эксплуатацыйнай службе павінны быць створаныя дамавыя камітэты і таварыскія суды. Аднаўляецца і практыка спаборніцтваў за званьне «Дом узорнага ўтрыманьня і грамадзкага парадку». Для заахвочваньня актывістаў гарадзкія ўлады дазволілі выкарыстоўваць тры працэнты адлічэньняў на спартыўна-масавую работу.

**Ул. інф**

## ПАЧЫМ ОПІУМ ДЛЯ НАРОДУ?

Гэтае пытаньне задаваў Астап Бэндэр айцу Фёдару. «Не дзеля карысьці, а толькі для выкананьня волі паслаўшай мя жонкі», - адказваў поп.

Немагчыма ўявіць, каб на французкім ці нямецкім тэлебачаньні ў дзень гадавіны абвяшчэньня гэтых рэспублік палівалі брудам гэту гістарычную падзею, а разам бэсьцілі канстытуцыю і парламант.

На Беларусі магчыма ўсё. Сапраўднае цемрашальства назіралі тэлегледачы ўвечары 25 сакавіка ў сьвяты для беларусаў дзень - 78-ыя ўгодкі БНР. Два сумнавядомыя паны, не валодаючы беларускай мовай, пры ўдзеле вядучага тлумачылі народу, што такое беларуская дзяржаўнасьць з пункту гледжаньня расейскага абывацеля-нацыяналіста. З вуснаў гэтых паноў мы даведаліся, што стваральнікі першай беларускай дзяржавы - калабаранты, прыслужнікі германскага кайзера Вільгельма II, якія, нібыта жадалі перадаць нашыя землі пад нямецкае кіраваньне.

Калі бацькі заснавальнікі БНР калабаранты, дык хто тады Ленін і ягоны ўрад, падпісаўшыя ў Брэсьце мір з немцамі, па якому Беларусь адыходзіла да Германіі за некалькі тыдняў (заўважце, не пасьля, а ДА) да абвяшчэньня БНР? Менавіта Ленін і Зіноўеў увесну 1917-га ўвайшлі ў змову з нямецкім генштабам і былі перапраўленыя са Швайцарыі ў Расею праз тэрыторыю варожай Германіі ў пламбаваным вагоне. Не беларускія патрыёты, а менавіта бальшавікі хаўрусьнічалі ў тыя часы з немцамі. Менавіта бальшавікі на чале з Леніным нанесьлі ўдар у сьпіну дэмакратычнай Расеі і яе арміі, паклаўшы пад нямецкай ваеншчыны землі Беларусі, Прыбалтыкі, Украіны. Калабаранты былі не сярод заснавальнікаў Беларускай дзяржаўнасьці, а сярод камуністычнай вярхушкі РСДРП (б).

А хто такія стваральнікі БССР? Ні Фрунзэ, ні Мясьнікян, ні Кнорын не зьяўляліся беларусамі, ніколі на Беларусі не жылі. Яны ня ведалі інтарэсаў беларускага народу, не выяўлялі іх. Назваць іх беларускімі патрыётамі можна толькі ў дзень сьмеху. Яны выконвалі волю Масквы, навязвалі нашаму народу бальшавіцкую заразу, усяляк перашкаджалі станаўленьню сапраўднай беларускай дзяржаўнасьці. Гэта ня тое, што калабаранты, гэта - прадстаўнікі каланіяльнай адміністрацыі, якія праводзілі ў жыцьцё жаданьні маскоўскай метраполіі. Ды і ўсе пасьледуючыя гады Беларусьсю кіруюць падстаўныя людзі. Нават, што характэрна, да 90-х гадоў ніводзін шэф КДБ БССР ня быў беларусам, усё розныя Берманы ды Цанавы.

Дасталася ў той вечар і Канстытуцыі Беларусі. Па словах афіцыйных прапагандыстаў, яна і недасканалая, і прымалася не так і ня тымі людзьмі, і насельніцтва яе ня любіць. Хоць бы слаўцо сказалі, што ў распрацоўцы і прыняцьці Канстытуцыі ўдзельнічаў дэпутат Лукашэнка. А потым стаў бароцца за пасаду прэзідэнта, уведзеную новай Канстытуцыяй. Больш за тое, стаўшы прэзідэнтам, публічна пакляўся бараніць Канстытуцыю і закон, беларускую дзяржаўнасьць.

Усе дзяржавы і ўрады сьвету шануюць вытокі сваёй дзяржаўнасьці, традыцыі дзядоў, мову і культуру, разьвіваюць нацыянальную сьвядомасьць, годнасьць, патрыятызм. Беларускія ўлады рухаюцца ў адваротным накірунку. Каму гэта на карысьць? Нашаму народу? Не, народ не ліпіць сук, на якім сядзіць. «Дэмакрату» Ельцыну, што ў змаганьні з расейскімі камуністамі ўступіў у хаўрус з беларускімі неакамуністамі? Часткова. Адзіная сіла зацікаўленая ў развале ўласнай дзяржавы - гэта правячая наменклатура, якая завалiла ўсе справы.

Калі назваць калабарантамі бацькоў-заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, то якім словам акрэсьліць тых, хто стаўшы на чале беларускай дзяржавы, адкрыў яе межы ўсім вятрам, скасаваўшы мытні, раскватараваў тут вайсковыя базы, зьліквідаваў уплыў беларускай культуры, хваліць Гітлера за парадак, б'е дэпутатаў гумовымі палкамі па галаве, гвалціць галодных рабочых, зьбівае мірных дэманстрантаў і ня можа кроку зрабіць без дазволу суседняй дзяржавы? Ня мы ўзгадалі гэта слова - калабаранты. Але мы цяпер яго не забудзем.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ГРАМАДЗТВА

**У ВЫНІКУ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС РАДЫЯЦЫЯЙ БЫЛА ЗАБРУДЖАНА ЎСЯ ТЭРЫТОРЫЯ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ. ПЕРШЫМІ НАСТУПСТВЫ ГЭТАЙ ТРАГЕДЫІ АДЧУЛІ НА САБЕ ДЗЕЦІ**

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ДЗЕСЯЦІГОДКА

**На думку аўтарытэтных амерыканскіх дасьледчыкаў, найбольш небясьпечнымі атамнымі электрастанцыямі ў сьвеце зьяўляюцца Кольская АЭС у Расеі, Ігналінская ў Летуве і Чарнобыльская на Украіне. Прычым новая аварыя на апошняй можа здарыцца ўжо ў гэтым годзе. Пра гэта днямі сваім слухачам паведаміў расейскі «Молодёжный канал».**

Такім чынам Беларусь, якая толькі-толькі пачала адчуваць першыя аддаленыя(!) наступствы аварыі 1986 году, можа рыхтавацца да новых радыяктыўных выпрабаваньняў. Досьвед першай постчарнобыльскай дзесяцігодкі сьведчыць аб тым, што новай аналагічнай трагедыі Беларусь папросту не перажыве. Гэтую выснову выдатна пацьвердзілі і лічбы, і факты, прыведзеныя на прэс-канферэнцыі на тэму «Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС: урокі, праблемы, шляхі вырашэньня», якая прайшла 4 красавіка ў аблвыканкаме.

Радыёактыўнае забруджаньне закранула 23 працэнты тэрыторыі краіны, на якіх жыло і жыве(!) больш двух мільёнаў чалавек. Як паведаміў галоўны радыёлаг упраўленьня аховы здароўя аблвыканкаму Іван Юргель, практычна ўся тэрыторыя Гарадзеншчыны ў 1986 годзе была забруджана радыёактыўным ёдам-131. У зеляніне, малацэ, іншых прадуктах у першыя месяцы пасьля аварыі яго колькасьць была завышаная ў шмат разоў. І толькі ў верасьні ўзровень радыяцыі ў выніку распаду ёду вярнуўся да нормы. Гэта азначае, што ўсе гарадзенцы, якія супакойвалі і супакойваюць сябе, што Чарнобыль - гэта дзесьці далёка і да іх ня мае дачыненьня, на працягу некалькіх месяцаў елі і пілі радыёактыўныя прадукты, купаліся ў забруджанай вадзе, адпачывалі ў забруджаных лясах і парках. Першымі наступствы трагедыі адчулі на сабе дзеці.

Чатыромстам хлопчыкам і дзяўчынкам за гэтыя гады былі зроблены аперацыі з нагоды злаякасных пухлін, узьнікненьне якіх было выклікана празьмерным накапленьнем ў целе ёду. Паводле слоў сп.Юргеля, выбух у Чарнобылі кампенсаваў характэрны для жыхароў Гарадзеншчыны недахоп ёду ў арганізме. Барані Божа ад такой «кампенсацыі»! Яе вынікі мы адчуем праз дзесятак гадоў, калі чарнобыльская каса пачне касіць і дарослых. А гэта, як ні сумна казаць, адбудзецца. У адрозненьні ад ёду, распад якога адбываецца праз некалькі месяцаў, перыяд паўраспаду радыёактыўных цэзія і стронцыя, прынесеных чарнобыльскай хмарай, займае 30 гадоў, а поўны распад адбудзецца толькі праз трыста(!) гадоў. Паскорыць гэты працэс ніхто ня ў сілах. Але ж можна паспрабаваць зьменшыць наступствы аварыі!

Беларускія ўлады на працягу ўсіх дзесяці гадоў праяўляюць злачынную пасіўнасьць. Дайшло да таго, што сёньня, напярэдадні сумнага юбілею, Беларусь канчаткова адмовілася ад спробаў атрымаць ад Украіны і Расеі кампенсацыю за страты, нанесеныя выбухам! Прысутны на прэс-канферэнцыі начальнік упраўленьня сацыяльнай абароны насельніцтва і прававой работы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Кудзін зачытаў журналістам экспертнае заключэньне інстытуту філасофіі і права Акадэміі навук краіны, зробленае па даручэньню Кабінета Міністраў. У дакуманьце выносіцца канчатковы прысуд: прававых падставаў для іску Расеі і Украіне няма! А значыць - няма вінаватых у тым, што здарылася, вінаваты самі беларусы. Як тут не прыгадаць показку пра цьвік у лаве і беларускі характар?! Але ці ня прыйдзе час, калі самі беларусы прад'явяць іск свайму ўраду, аддаўшаму народ на закланьне сьмерці? А падставаў для гэтага - і прававых, і маральных - больш чым дастаткова. Прывядзем толькі некалькі прыкладаў.

У краіне сёньня жыве каля 126 тысячаў «ліквідатараў» - людзей, здолеўшых даказаць, што бралі ўдзел у выратавальных работах. Прэзідэнцкім указам яшчэ ўвосень усе яны пазбавіліся ільгот на аплату камунальных паслуг, на праезд ды іншых палёгкаў. Тым часам, колькасьць інвалідаў сярод «ліквідатараў» імкліва расьце. Сёньня ў Беларусі іх тры з паловай тысячы, 425 чалавек ужо памерла (у вобласьці адпаведна 108 і 30). Да катэгорыі «ліквідатараў» «клапатлівым» урадам не аднесены настаўнікі, сувязісты, журналісты, работнікі культуры, якія працавалі на забруджаных тэрыторыях. «А што вы ліквідавалі?» - пытаюцца ў іх чыноўнікі. Колькасьць такіх людзей, рызыкаваўшых сваім здароўем, замест таго, каб уцякаць куды вочы глядзяць, сёньня нават невядома! Гэтак жа і з перасяленцамі. Людзі, пражыўшы па некалькі гадоў на «брудных» землях, ня маюць увогуле ільготаў. Даплата за пражываньне на забруджанай тэрыторыі складае 6 тысячаў у дзень. Перасялілі - і забыліся. На Гарадзеншчыне сёньня жыве каля 16 тысячаў чарнобыльцаў. Лічба прыблізная - да 1990 году ўлік перасяленцаў ня вёўся!

Між тым, ёсьць на тэрыторыі вобласьці і «карэнныя» чарнобыльцы. Каля 50 тысячаў чалавек жыве ў забруджаных гарадах і вёсках Дзятлаўскага, Карэліцкага, Іўеўскага, Лідзкага, Навагрудзкага, Смаргонскага раёнаў. У мінулым годзе сьмяротнасьць на тэрыторыі радыяцыйнай плямы ў вобласьці перавысіла сярэднеабласныя паказчыкі! І ў такой сітуацыі беларускі ўрад прымае праграму г.зв. «мінімалізацыі». Аказваецца, за 10 гадоў узровень радыяцыі зьнізіўся на 15-20 працэнтаў, некаторыя населеныя пункты сталі «чыстымі». Іх перасталі лічыць забруджанымі, а жыхары пазбавіліся ільгот. Так, у вобласьці пазбавіліся даплат каля 16 тысяч чалавек. Сярод іх дзеці, якія да гэтага часу атрымлівалі ад дзяржавы грошы на харчаваньне (31 тысячу ў дзень), ляччэньне і аздараўленьне. Паб'ядалі дзяржаву - і хопіць! А тое, што яны гадамі назапашвалі ў арганізме радыяцыю - ня ў лік. Тое, што ў суседнім з цяпер ужо «чыстай» вёскай лесе, полі па-ранейшаму ўзровень радыяцыі перавышае норму - таксама ня ў лік. Галоўнае - ёсьць вынікі барацьбы з наступствамі і можна адрапартаваць: спраўляемся самі, ачысьцілі ад радыяцыі 30 населеных пунктаў Гарадзеншчыны! А таму сродкаў на чарнобыльскія праблемы можна выдзяляць менш, што мэтанакіравана і робіцца. Калі ў 1992 годзе на Чарнобыль пайшло 12,6 працэнта сродкаў ад бюджэту краіны, то ў 1995-м - усяго 7,3 працэнта.

Катастрафічнай, па словах загадчыка аддзела па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на ЧАЭС аблвыканкаму Станіслава Андрыеўскага, выглядае ў 1996 годзе і сітуацыя з аздараўленьнем людзей - няма сродкаў. Ну адкуль жа іх узяць, калі на арганізацыю прапрэзідэнцкіх мітынгаў дзяржава ледзь-ледзь грошай «наскрабае»?!

...Як тут не прыгадаць словы адной даволі папулярнай у 80-я гады песьні групы «Заапарк»: «Вось такі жывем! Такі будзем жыць, пакуль не памрэм! А калі мы жывем вось так, то значыць так і трэба!»

Каму гэта трэба, людзі?

**Вітаўт РУДНІК.**

## ДЗЯТЛАЎСКІЯ ЎЛАДЫ АДПУСКАЮЦЬ НАРОД НА ПАДНОЖНЫ КОРМ

**Дзятлаўскі райвыканкам праінфармаваў жыхароў г.Дзятлава, што кожны, у каго меней 10 сотак на агарод, або меней 15 сотак пры прыватнай хаце, мае права на атрыманьне ўчастку пад пасадку бульбы ў адной з гаспадарак раёну: «Чырвоны кастрычнік», «Зара», «Новае жыцьцё», «Ніва».**

Магчыма гэта і выйсьце. Ня можаш пракарміць народ - дай па кавалку зямлі і хай корміцца сам. З другога боку гэтай акцыяй улады гарантуюць сабе спакой і павагу на ўсё лета, бо ад зямелькі на мітынгі вельмі не набегаеш, а вось да начальніка па саджалку там, ці капалку без павагі не падыдзеш.

## ГОНАР ПРЭЗІДЭНТА КАШТУЕ 100 ТЫСЯЧ «ЗАЙЧЫКАЎ»

**З месяц таму ў Ваўкавыску здарылася падзея, якая нейкім чынам аказалася не заўважанай сродкамі масавай інфармацыі. Мясцовы суд на чале з суддзёй Тамарай Шукайлай судзіў былога настаўніка гісторыі адной з Ваўкавыскіх школаў Івана Лантуха за абразу гонару і годнасьці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

Сутнасьць справы была ў тым, што ў сьвятле вядомых выказваньняў нашага прэзідэнта пра Гітлера, спадар Лантух публічна назваў А.Лукашэнку фашыстам, а мясцовыя ўлады – яго "прыхлябацелямі". Улады «фашыста» перажылі б, але «прыхлябацеляў» ня здолелі, а вось судзіць, вырашылі, лепш за «фашыста». І спадарыня Шукайла «упаяла» сп.Лантуху « на ўсю катушку», г.зн. на цэлую мінімальную зарплату(!).

Таму, хлопцы, перш чым назваць А.Лукашэнку «фашыстам», «здраднікам», «маскоўскім халуём» або яшчэ як-небудзь, памацайце кішэню, ці ёсьць у вас сто тысяч рублёў.

**Станіслаў СУДНІК.**

## БЕСПРАЦОЎЕ - САЦЫЯЛІЗМ ЦІ РЫНАК?

У Гарадзенскім гарадзкім цэнтры занятасьці стаіць на ўліку больш за 7 тысяч беспрацоўных. Дапамогу па беспрацоўю атрымліваюць больш за 3 тысячы чалавек. Рабочыя вакансіі запаўняюцца не даўжэй, чым на працягу гадзіны. Пры гэтым паміж беспрацоўнымі існуе вялікая канкурэнцыя. Імгненна займаюцца пасады санітарак, няняў, дворнікаў. Разам з тым, надзвычай неабходныя галоўныя бухгалтары. А казалі, што ня ў грошах шчасьце.

**С.С.**

## ЯК ГАРТУЕЦЦА СТАЛЬ

**Затрымкі выплаты заробкаў становяцца нормай сярод настаўнікаў сярэдніх школ.**

Напрыклад, у СШ N 22 г.Горадні зарплата і аванс затрымліваюцца на 3-5 дзён. Дарэчы, заробак пералічваюць праз ашчадныя касы, якія бяруць за гэта 5%. Калі ўзяць агульную суму фонду заработнай платы па ўсім Ленінскім раёне, то на пяці працэнтах можна зарабіць някепскія грошы. Варта настаўнікам адкрываць сваю сьпецыялізаваную фірму па дастаўцы грошай і класьці гэтыя 5% ва ўласную кішэню.

Выкладчыкі Гарадзенскага ўніверсітэту, якім таксама даўно і рэгулярна затрымліваюць выдачу зарплаты, сцьвярджаюць, што гэта трэніроўка перад уваходам у Расею, дзе, як вядома, заробкаў чакаюць па паўгода.

## НАМ І «ФІЛІПС» ПА ПЛЯЧУ?

У будынку былой крамы «Навінка» па вуліцы Горкага ў Горадні фірма «Філіпс» прапануе пакупніку тавар на любы густ. Эўрапейскі дызайн, добразычлівы персанал, вядомыя гандлёвыя маркі. Вось толькі ці хопіць звычайнаму чалавеку грошай на заморскія тавары? Ці ня будзе ён час ад часу заходзіць у «Філіпс» выключна як у музей? Музей, які дэманструе лад таго жыцьця, якое «звычайны чалавек» не захацеў мець у сябе на Беларусі, абраўшы мары пра каўбасу за 2.20 і саюз з вялікай, але не ўладкаванай краінай.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## НАРОД ПАРАЗУМНЕЎ

Ніводзін абманутуы ўкладчык не прыйшоў яшчэ ў Навагрудзкую філію «Беларусбанка» па кампенсацыю. Відаць, паразумнелі.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## Я - ПАДМАНУТЫ ЎКЛАДЧЫК: БОЛЬШ МЯНЕ НЕ ПАДМАНВАЙЦЕ!

**Сярод карт, якія разыгрываюцца «вертыкальлю», акрамя аб'яднаньня, казырнай таксама лічыцца кампенсацыя стратаў укладчыкаў. Распрацаваны не адна, а нават некалькі праграмаў, як гэта можна зрабіць. І вось ужо спадарыня Савіцкая з «Беларусбанку» аб'яўляе на ўсю вобласьць: «Калі ў вас з 1 студзеня 1991 году ў Ашчадбанку ляжала некая сума, вы зараз уносіце такую ж суму, павялічаную ў дзьве тысячы разоў, і праз год акрамя звычайных працэнтаў атрымаеце кампенсацыю, тую самую суму, павялічаную ў тысячу разоў!»**

Схема для звычайнага чалавека крыху цьмяная. Патлумачу яе на ўласным прыкладзе. Да студзеня 1991-га ў мяне на ашчадкніжцы ляжала 10 000 рублёў, значыцца я зараз павінен пакласьці яшчэ (10 000 х 2 000) 20 мільёнаў, і праз год змагу атрымаць працэнты, і яшчэ (10 000 х 1 000) 10 мільёнаў, якія і будуць кампенсацыяй за тыя, некалі прапаўшыя 10 тысяч.

Толькі скажыце мне, ужо абрабаванаму да ніткі, дзе зараз узяць 20 мільёнаў?

І, самае галоўнае, абяцаная кампенсацыя зусім не кампенсуе мае страты! Хіба тыя 10 тысяч роўныя сёньняшнім 10 мільёнам? Відаць у «Беларусбанку» кепска ўмеюць лічыць. Таму я для іх палічу самым відавочным чынам: на запалках. Тады каробка запалак каштавала 1 капейку, зараз - 200 рублёў. Гэта значыць, рэальнае абясцэньваньне грошай у 20 тысяч разоў! Зразумела? А мне абяцаюць кампенсаваць толькі ў тысячу разоў! Гэта за год. Значыць, поўную кампенсацыю я атрымаю праз 20 гадоў! Дзякуй. Я мяркую, што гэтага не дачакаюся.

Расказваюць, што адна з фракцыяў цяперашняга парламанту распрацавала праект закону, у якім прадугледжана страты ўкладчыкаў вызначаць у доларавым эквіваленце. Прычым лічыць гэтыя страты эквівалент будуць у лепшых традыцыях «ВЧК, ОГПУ, НКВД і ўвогуле КПСС»: курс долара вызначаецца для кожнага ўкладчыка персанальна. Пры памеры ўкладу да 5 тысяч рублёў - тры рублі за долар, ад 5 да 10 тысяч - дзесяць рублёў за долар, ад 10 да 15 тысяч - пятнаццаць рублёў за долар, звыш 15 тысяч рублёў - дваццаць рублёў за адзін долар. Уяўляеце? Ці не? Лічыце: у каго было 5 тысяч рублёў, той атрымае 1 660 доляраў, а хто меў 15 тысяч атрымае 1 000 «зялёных», а ў каго было 15 500 рублёў - таму сьвеціць толькі 770 доляраў! Атрымліваецца, чым у той час лепш працаваў, больш зарабляў, чым ашчадней жыў, тым менш зараз атрымаеш! Вось ужо сапраўды «рабуй нарабаванае!» ці «калі ўсе будуць аднолькава бедныя, тады і будзе па справядлівасьці».

Больш таго, аўтары праекту закону цудоўна ведаюць, што столькі доляраў на Беларусі няма і ня будзе. Таму плануецца пацярпелым укладчыкам выдаваць «дзяржаўныя аблігацыі ў доларавым эквіваленце».

Гумар гэтага законапраекту ў тым, што ён накіраваны на кампенсацыю ня толькі грашовых укладаў, але і аблігацый 90-га году. Памятаеце, былі такія мэтавыя, на набыцьцё тавараў доўгатэрміновага карыстаньня? Навошта аблігацыі кампенсаваць новымі аблігацыямі? Ах, больш кампенсаваць няма чым... Выходзіць, замест адных нічога ня вартых паперак атрымаем такія самыя пустыя. І будзем рады, як дзеці фаньцікам.

Дык што ж рабіць? А нічога. Сплюнуць, паражагнацца і забыць. Старэйшае пакаленьне яшчэ памятае, як з сярэбраных царскіх рублёў і польскіх злотых рыбакі майстравалі блёсны, як «керанкамі» і «кацярынкамі» абклейвалі сьцены ў хатах. З больш новай гісторыі можна назваць аблігацыі пасьляваенных займаў... Народ зьмірыўся і прабачыў. Гэта значыць, можа і не зусім прабачыў, але нічые вокны не былі выбітыя, ніводнага чыноўніка на вуліцу ня вывалаклі, дзёгцям не перапэцкалі і ў пёрах ня выкачалі. Вось і зараз, узялі б дый сказалі людзям праўду: плакалі вашы грошыкі!

Але гэта будзе палітычна памылкова. Нагадваю, што кампенсацыя ўкладаў - жаданая карта ў палітычных гульнях. Прычым тут нейкі народ, нейкія «кроўныя» зьберажэньні?

Калі глядзець шырэй, дык магчымасьць кампенсацыі ёсьць, але для гэтага патрэбна ня зьмена банкіра, а зьмена рэжыму.

**Алесь НАРБУТ.**

## ШТАБ ПОЙДЗЕ ПА-ЗА КОНКУРСАМ?

Лідзкі гарвыканкам прапанаваў для продажу на конкурснай аснове будынкі і збудаваньні беларускай часткі Паўночнага гарадка. Сярод 13 аб'ектаў - штаб (дакладней камандны пункт), склады, сховішчы тэхнікі, сталоўка і г.д. Агульны кошт складае 6 мільярдаў 362 мільёны. Самы новы будынак, дзе знаходзіўся штаб і казармы, у сьпіс чамусьці ня ўключаны.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**





## УГОДКІ

# БЕЛАРУСКІ ГЕНЕРАЛ-АНТЫКАМУНІСТ

**(Працяг. Пачатак у N 14)**

1942 год, вясна. Па ўсёй Смаленшчыне пераліваюцца хваля за хваляй бандыцкія аддзелы, засіляныя рэгулярнымі часткамі Чырвонай Арміі. Паляць вёскі, рабуюць насельніцтва, забіваюць тых, хто ня хоча да іх прылучыцца. Нямецкія войскі, занятыя барацьбой на фронце і абаронай важных стратэгічных пунктаў, ня мелі часу займацца бандамі. Насельніцтва было кінута на лёс шчасьця. У гэты сумны для Смаленшчыны час зарганізавалася ў Смаленску Акруговая Управа пад кіраўніцтвам беларуса Радаслава Астроўскага. Яго супрацоўнік Касмовіч адразу ж прыняўся за арганізацыю Самааховы. З усіх бакоў пасыпаліся заявы. З усіх бакоў сьпяшыў народ на барацьбу з чырвонымі бандамі.

Неўзабаве маладыя байцы пайшлі ў наступ. Яны неспадзяваным ударам разьбілі моцныя групы бандытаў, вызвалілі ад іх вялікія абшары.

Чуючы небясьпеку, бандыты рабілі контрнаступ. Яны моцнымі сіламі з артылерыяй напалі на Цырыльніцкі апорны пункт. Аднак маладыя байцы вытрымалі асаду, пакуль не падасьпела дапамога. Бандыты былі разьбіты.

Пад умелым кіраўніцтвам Д.Касмовіча і Вітушкі хутка растуць аддзелы Самааховы, вызваляючы штораз то новыя сёлы, то новыя раёны. Цяпер Самаахова налічвае шмат тысячаў байцоў, добра ўзброеных аўтаматычнай зброяй, гарматамі і танкамі. Небясьпека бандытызму зьліквідаваная...

Баявыя вычыны афіцэраў і байцоў Самааховы не забыты таксама і нямецкімі ўладамі. Нямецкае камандаваньне адзначыла многіх ардэнамі з мячамі «За адвагу». Сярод іх, як першыя беларусы, атрымаўшыя гэтыя ордэны, выступаюць Касмовіч і Вітушка...

Д.Касмовіч камандуе ўсімі фармаваньнямі Беларускай паліцыі і Самааховы Смаленскай акругі. Адначасна з гэтым, падтрымлівае адраджэньне царкоўнага жыцьця на Смаленшчыне, спрыяе адбудове праваслаўных цэркваў. Ён быў дэлегатам ад Смаленшчыны на Усебеларускі Праваслаўны Царкоўны Сабор, які распачаў сваю работу 30 жніўня 1942 г. у Менску.

Сабор гэты прыняў шэраг пастановаў, сярод якіх былі наступныя: 1) Аб заснаваньні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ); 2) Аб Статуце БАПЦ; 3) Тэксты лістоў да Канстанцінопальскага Патрыярха і да іншых аўтакефальных цэркваў з просьбай прыняць БАПЦ у склад існуючых самастойных цэркваў.

Адначасна з легальнаю, ды пры яе дапамозе, Д.Касмовічам праводзілася й падпольная дзейнасьць. Ён і Міхал Вітушка зьяўляліся сябрамі ЦК падпольнай антыкамуністычнай і антыфашысцкай Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). На Смаленшчыне й Браншчыне яны арганізоўвалі падпольныя структуры партыі, а таксама спрыялі пашырэньню нацыянальнага партызанскага руху (на Браншчыне дзеяла «Народная Сацыял-Рэвалюцыйная Партызанка»).

У 1943 г., па даручэньню ЦК БНП, Касмовіч высылае двух дэлегатаў у Жытомірскія лясы на тайную нараду «паняволеных народаў для ўзгадненьня ўтварэньня адзінага супольнага фронту супраць акупантаў і панявольнікаў іхных народаў і аднаўленьня вольных і незалежных дзяржаваў гэтых народаў». На гэтай нарадзе, арганізаванай бандэраўскай ОУН, якой кіраваў у адсутнасьць арыштаванага немцамі Сьцяпана Бандэры, Лебедзь, быў заснаваны Антыбальшавіцкі Блок Народаў (АБН). Сябра БНП капітан «Дружны» ад імя партыі падпісаў гэтае пагадненьне.

У гэтым жа годзе Д.Касмовіч скончыў франтавыя курсы штабных афіцэраў і быў прызначаны інсьпектарам усіх беларускіх узброеных сілаў прыфрантавой зоны групы арміі «Цэнтр». З набліжэньнем фронту да Смаленску, ён пераязджае ў Магілёў і ўжо тут стварае беларускія паліцыйныя фармаваньні. Неўзабаве, Касмовіча выклікае ў Менск Астроўскі, які ў сьнежні 1943 году стаў прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Астроўскі, Касмовіч і Вітушка жылі ў Менску на адной кватэры.

Д.Касмовіч быў дэлегатам Другога Усебеларускага Кангрэсу, які праходзіў у Менску 27 чэрвеня 1944 году. На Кангрэсе зачытвалася прывітаньне беларускіх вайскоўцаў, якія падначальваліся Касмовічу і Вітушку: «Другому Усебеларускаму Кангрэсу ў Менску, вельмі паважанаму Гаспадару Прэзідэнту Прафесару Радаславу Астроўскаму.

Жаўнеры Парадкавай Службы - першай беларускай збройнай арганізацыі прысылаюць з усходняга фронту Другому Усебеларускаму Кангрэсу гарачае прывітаньне і жадаюць яму поўнага посьпеху ў ягонай працы над адбудовай Вольнай і Незалежнай Беларусі. Прыракаем Усебеларускаму Кангрэсу поўную салідарнасьць у ягонай дзейнасьці і пастановах. Прыракаем сваю зброю ня выпусьціць з рук, пакуль не застанецца ніводнага ворага на нашай беларускай зямлі. Жыве Беларусь!

26.6.1944. Жаўнеры і афіцэры Парадкавай Службы, Усходні фронт.»

З лета 1944-га Д.Касмовіч знаходзіцца ва Усходняй Прусіі ў мястэчку Дальвіц, дзе праходзілі падрыхтоўку на партызанскую дзейнасьць на Бацькаўшчыне сябры БНП. Маёр М.Вітушка ўжо ў лістападзе 1944 году быў перакінуты на Беларусь. Сотні маладых беларускіх патрыётаў пад заклік БНП «Здабудзем Беларускую Дзяржаву, або загінем у барацьбе за яе!» былі гатовыя да змаганьня з бальшавіцкім акупантам. Усе яны памяталі словы прысягі, якую складалі кіраўнікам партыі: «Прысягаю на Бога, што буду верным да сьмерці свайму Народу і Бацькаўшчыне, буду аддана і самаахвярна змагацца за незалежнасьць Беларусі і за шчасьце і волю беларускага народу. Уступаючы ў рады БНП, прысягаю ня здрадзіць яе спраў і тайнаў ані словам, ані чынам, хоць бы мяне чакалі найбольшыя спакусы і мукі. За справу БНП прысягаю аддаць кожную хвіліну жыцьця, бо ведаю, што яе справа - гэта справа волі і шчасьця Беларускага Народу і Бацькаўшчыны, і што сёньня толькі ў шчыльных радах БНП мы здабудзем незалежнасьць Беларусі і дамо адпор нашым ворагам. Ведаю, што за здраду спраў і тайнаў партыі кожны яе сябра караецца сьмерцю. Ад сёньняшняга дня - я актыўны змагар і працаўнік БНП».

Маёр Д.Касмовіч атрымоўвае сьпецыяльнае заданьне ад старшыні ЦК БНП Усевалада Родзькі й у студзені 1945 г. прыязджае ў Берлін. Загадам ген. Езавітава ён быў залічаны ў Асобную групу рэзерву беларускіх вайскоўцаў пры Галоўным Кіраўніцтве Вайсковых Спраў БЦР. Касмовіч падтрымлівае шчыльныя кантакты з кіраўніцтвам латышскіх нацыяналістычных арганізацый, вядзе перамовы аб сумеснай барацьбе з бальшавікамі на Бацькаўшчыне. Але галоўная задача Д.Касмовіча была іншая.

У сакавіку ён ізноў уваходзіць у батальён «Дальвіц» ды рыхтуецца да пераходу на бок саюзьнікаў. Касмовіч атрымлівае паўнамоцтвы ўпаўнаважанага прадстаўніка БНП на «Заходняе паўшар'е» з заданьнем ЦК БНП навязаць лучнасьць з заходнімі дзяржавамі, для далейшай барацьбы супраць акупантаў за вольную і незалежную БНР. Місія яго была важнай і таму сьледчыя НКУС неаднаразова распытвалі пра гэта ў арыштаванага У.Родзькі. Вось што ён расказаў на допыце ў менскай турме напрыканцы 1945 году: «Маёра Касмовіча я накіраваў у Парыж з заданьнем, акрамя арганізацыйнай работы па лініі БНП, устанавіць сувязь асабіста або праз іншых нацыяналістаў, ужо вядомых на Захадзе, з ангельскімі ўрадавымі коламі. У гэтых мэтах ён павінен быў скарыстацца падтрымкай інжынера Абрамчыка - лідара беларускай нацыяналістычнай эміграцыі ў Парыжы й высьвятліць праз яго магчымасьць устанаўленьня сувязі з ангельцамі. У выпадку наяўнасьці гэтых магчымасьцяў, у мэтах узмацненьня сваіх пазіцый, устанавіць сувязь таксама з украінскімі і рускімі нацыяналістычнымі цэнтрамі ў Францыі.

Па ўстанаўленьню сувязі з ангельцамі давесьці да ведама іх ураду, што беларускія нацыяналісты імкнуцца стварыць незалежную беларускую дзяржаву і што кіруючым цэнтрам палітычнай барацьбы за гэтую дзяржаву на міжнароднай арэне зьяўляецца Беларуская Цэнтральная Рада, а асноўным фактарам барацьбы ў падпольлі на тэрыторыі Беларусі - Беларуская Незалежніцкая Партыя.

Я даручыў таксама Касмовічу праінфармаваць ангельскае камандаваньне аб сутнасьці сьпецыяльнага батальёну «Дальвіц», у выпадку канфлікту з Савецкім Саюзам выкарыстаць яго для арганізацыі дыверсій, тэрору і шпіянажу на карысьць ангельцаў. У гэтым выпадку я меў на ўвазе ўстанавіць кантакт з ангельскімі разьведвальнымі органамі і перайсьці на бок ангельцаў усім складам разьведшколы. ...Лічу, што Касмовіч сувязь з ангельцамі ўстанавіў, бо з Берліну ён накіраваўся на пачатку красавіка 1945 году ў горад Штрасбург і больш адтуль не вяртаўся. Ягопаездка супала з прасоўваньнем ангельскіх і французкіх частак у гэтым раёне на ўсход». («Белорусская Нива», 20 студзеня 1994 г.)

Касмовічу было цяжка выканаць заданьне цалкам. Трапіўшы да саюзьнікаў, ён праходзіў праверку і нейкі час быў пад арыштам. Пасьля была небясьпека быць выдаваным бальшавікам, як, напрыклад, адбылося з Антонам Сокал-Кутылоўскім, таксама сябрам БНП і палкоўнікам БКА. Але гэтага ўдалося пазьбегнуць. Пачалося жыцьцё ў лагерах для перамешчаных асобаў (ДП).

Дзьмітры Касмовіч аднаўляе дзейнасьць БНП і стварае ў Заходняй Нямеччыне Замежны Сектар партыі, які і ўзначальвае. Замежны Сектар, праўдападобна, меў сувязь з генералам Вітушкам, які ачоліў БНП на Бацькаўшчыне. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся нелегальныя каналы й групы сувязі, астаўленыя ў Польшчы, Чэхаславаччыне, у Берліне. Ня выключана, што Касмовічу ўдалося наладзіць сувязь з ангельскай разьведкай, якая пачала дапамагаць Беларускай Вызвольнай Арміі зброяй, медыкаментамі, амуніцыяй і іншым. Але, па іншых зьвестках, ген.Вітушка наладзіў сувязь з ангельскай выведкай самастойна, або з дапамогаю вайсковай арганізацыі «Беларускі Вызвольны Рух», на чале якой стаяў палкоўнік Л.Галубовіч (Зарэчны). Яснасьці ў гэтым пытаньні пакуль няма.

Тым часам БНП разгортвае сваю працу ў Зах.Нямеччыне, у Бельгіі, Англіі. Выдаваліся нелегальныя ратататарныя часопісы «Праца і воля», «За волю», шматлікія ўлёткі. Практычна ўсе былі ўпэўнены, што неўзабаве пачнецца вайна Захаду з СССР і рыхтаваліся да яе. Але палітычны раскол беларускай эміграцыі падарваў сілы Замежнага Сектара БНП. Сам Д.Касмовіч (псеўда «Каршун») быў прыхільнікам Р.Астроўскага і БЦР. Сябры ЦК БНП Барыс Рагуля, Міхась Рагуля і Уладзімір Набагез былі на баку Рады БНР і М.Абрамчыка. У сьнежні 1948 г. Касмовіч здолеў правесьці рашэньне аб выключэньні Рагуляў і Набагеза па сумнійнай прычыне з шэрагаў партыі. Тым самым ён сьвядома адкалоў ад партыі сяброў-прыхільнікаў Рады БНР. Канешне, падзел Замежнага Сектару быў непазьбежным. Толькі новы кіраўнік мог выратаваць яго, пры гэтым, ён павінен быў бы быць незалежным і ад БЦР і ад Рады БНР ды мець вялікі аўтарытэт. Але Дзьмітры Касмовіч прыняў тое рашэньне, якое палічыў адзіна правільным і якое падтрымалі яго прыхільнікі. Дарэчы, раскол Замежнага Сектару БНП адбыўся яшчэ й па рэлігійных прычынах: Раду БНР падтрымлівалі, у асноўным, каталікі ды вуніяты, а БЦР - праваслаўныя. Як бы там ні было, а БНП на эміграцыі пасьля гэтага расколу згубіла былую сілу і аўтарытэт...

Прывядзем тут урывак з адозвы ЦК БНП (Замежны Сектар) на 25 сакавіка 1954 г.: «Дарагія сябры, грамадзяне й моладзь! ...Не тэарэтычнымі разважаньнямі, а штодзённай упартай працай БНП рашуча й бязупынна ідзе да сваёй мэты - вызваленьня Беларусі ад бальшавіцкай тыраніі. ...На зьмену гітлераўскай акупацыі прыйшла акупацыя бальшавіцкая. Але, нягледзячы на крывавы бальшавіцкі тэрор, беларускі народ не паддаецца. Пад кіраўніцтвам Беларускай Незалежніцкай Партыі ён стварыў на Бацькаўшчыне беларускае Краёвае Войска, якім камандуе адзін з лідараў БНП - генерал Вітушка. Войска гэтае адкрыта й падпольна, але бязупынна й рашуча змагаецца ўсімі даступнымі яму сродкамі супраць бальшавіцкай тыраніі.

У гэтым змаганьні на Бацькаўшчыне мы йдзем шчыльнымі радамі з Украінскай Паўстанчай Арміяй, з паўстанцамі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Югаславіі, Румыніі ды іншымі паняволенымі народамі.

...На вас ляжыць абавязак стаяць на варце інтарэсаў Беларускага Народу! Гуртуйцеся навокал Партыі ды пашырайце яе ідэю, бо ідэя Беларускай Незалежніцкай Партыі - ідэя народу!

Сакавік, 1954 г., Нямеччына.

Кіраўнік ЦК БНП (Замежны Сектар) «Каршун».

Як мы ўжо ўспаміналі, існавала вайсковая арганізацыя «Беларускі Вызвольны Рух», якая фармальна падначальвалася БЦР. БВР дзейнічаў у Нямеччыне ды Англіі, супрацоўнічаў з ангельскаю выведкаю ды высылаў разьведвальныя групы на Беларусь (амаль усе групы вярнуліся, выканаўшы заданьне). У 1954 г. Р.Астроўскі захацеў цалкам падначаліць сабе БВР, але палкоўнік Зарэчны стаяў за незалежнасьць арганізацыі. У выніку, Астроўскі выдаў загад аб прызначэньні новага кіраўніка Руху, якому Зарэчны, зразумела, не падпарадкаваўся. Тады Астроўскі загадаў Д.Касмовічу стварыць новую арганізацыю пад назовам «Беларускі Вызвольны Фронт», у які павінны былі ўвайсьці прыхільнікі БЦР з Беларускага Вызвольнага Руху. Вось так і ішла гэтая бессэнсоўная і шкодная беларускай нацыянальнай справе барацьба сярод беларускіх эмігрантаў. У выніку БВР страціў сваю сілу, а БВФ сілы і ўплыву Руху ўжо набраць ня здолеў...

БНП (Замежны Сектар) фактычна ўлілася ў БВФронт. Д.Касмовіч узначальвае Галоўны Штаб БВФ і пачынае выдаваць на ратататары часопіс «Барацьба», які выходзіў пад дэвізам БНП «Беларусь Перадусім!» У 50-я гады наклад часопіса складаў 1000 паасобнікаў. Аддзелы БВФ стварыліся ў Зах.Нямеччыне, Англіі ЗША, Аўстраліі і іншых краінах, дзе жылі беларускія эмігранты. Міжнародная сітуацыя зьмянілася і ўжо не выпадала спадзявацца на хуткую вайну ЗША з СССР. Таму Фронт мяняе тактыку ў барацьбе з бальшавізмам. Тым больш, у 1956 г. было канчаткова разгромлена падпольле Беларускай Незалежніцкай Партыі на Бацькаўшчыне.

Касмовіч ад 1954 году зьяўляўся кіраўніком аддзелу Вайсковых справаў і вызвольнай барацьбы БЦРады, выконваў абавязкі старшыні Дэлегатуры БЦР у Зах.Нямеччыне і ў Эўропе. Ён прадстаўляе Раду ў Цэнтральным Камітэце Антыбальшавіцкага Блоку Народаў, утворанага яшчэ ў 1943 г. З 1954 г. Д.Касмовіч актыўна ўдзельнічае ў Арганізацыі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі (ВАКЛ), дзе рэпрэзэнтуе Беларусь.

У якіх бы міжнародных арганізацыях не састаяў Касмовіч, ён выкарыстоўвае любую магчымасьць для пашырэньня інфармацыі пра Беларусь, пра яе гісторыю, пра змаганьне Беларускага Народу за незалежнасьць, пра становішча Беларусі пад бальшавіцкай акупацыяй. Сотні зваротаў, меморандумаў, лістовак было выдадзена Беларускім Вызвольным Фронтам за 40 гадоў свайго існаваньня. За актыўны ўдзел у змаганьні за незалежнасьць Беларусі ў гады вайны і на эміграцыі, Дзьмітры Касмовіч атрымаў ад прэзідэнта БЦР Н.Мядзейкі напрыканцы 70-х г.г. рангу генерала. Атрымаў ён гэтую рангу заслужана. Рэшту жыцьця Д.Касмовіч правёў у няспыннай палітычнай дзейнасьці, аж да самай сваёй сьмерці.

Памёр беларускі генерал-антыкамуніст 23 красавіка 1991 году ў Нямеччыне ў Штутгарце. Лонданскі часопіс «Голас Часу» пісаў: «...пасьля кароткай, але вельмі цяжкай хваробы памёр генерал Касмовіч...»

На заканчэньне артыкула прывяду ўрывак са звароту Галоўнага Штабу БВФ ад лістапада 1986 г.: «Дарагія Сябры і ўсе суродзічы! У 66-я Угодкі Патрыятычнага Уздыму Героям Случчукоў, іх ахвярнасьці для вольнасьці Беларускага Народу, шчыра вітаю ўсіх Вас.

...Прыйдзе той час, калі ўзьнятыя патрыятычным духам сваіх папярэднікаў, падымуцца маладыя беларускія сілы і здабудуць Вольнасьць і Незалежнасьць Беларускай Дзяржаве. Слава палеглым за вольнасьць Бацькаўшчыны змагарам! Жыве Беларусь!»

**Сяргей ДУДАЛІЧ.**

